беларускай мовы. Аднак тагачаснае жыцьцё не пазваляе яму абмежываць сваю дзеяльнасьць толькі навуковай працай. Ён пачынае прыймаць адначасова актыўны ўдзел у беларускім палітычным жыцьці. Найбольшыя заслугі паклаў Тарашкевіч у галіне беларускага шкальніцтва. Ён становіцца на чале Беларускай Школьнай Рады, ператоранай пасьля ў ТБШ і за часоў т. зв. „Сярэдняй Літвы„ пры яго помачы адчыняецца каля 200 беларускіх школаў. З 1922 Тарашкевіч займаў тут становішча дырэктара Віл. Беларускае Гімназіі сэкратара Бел. Навуковага Т-ва.

У гэтым-жа 1922 г. учасе выбараў у польскі парлямант Тарашкевіч разам з 10 іншымі беларускімі пасламі выбіраецца беларускім народам прадстаўніком у сойм, становячыся старшынёй утворанага Бел. Пасольскага Клюбу. У пачатку сваей парлямэнтарнае дзеяльнасьці Т. зьяўляецца адным з тых палітыкаў, каторыя спадзяюцца праз соўмавую гаварыльню, на грунце існуючага грамадзкага ладу. дабіцца" для беларускага народу належных і нацыянальных правоў. Гэтая аснаўная канцэпцыя акрэсьлівала сабою і ўвесь характар дзеяльнасьці Бел. Пас. Клюбу.

На працягу некалькіх гадоў суровыя, жыцьцёвыя факты запярэчылі гэтай думцы. Массы беларускага народу ня толькі нічога не здабылі, але наадварот, паступова трацілі здабытае раней Правядзеньце т. зв. зямельнай рэформы на карысьць перадусім заможных земляробскіх слаёў ліквідацыя белар. школьн. пагаршэньне быту працоўных масаў—усё гэта змусіла шырокіе гушчы народу шукаць іншага, пазапарлямэнтарнага выхаду з сытуацыі Распачынаецца шпаркі рост незадаваленьня насельніцтва Зах. Беларусі. Адпаведна да гэтага адбываецца працэс дэфэрэнцыя раздзел ў радох беларускай інтэлігенцыі. Паступовыя элемэнты яе пераконваюцца, што апора нацыянальна—адраджэнскага руху не на соймавых крэслах, але на самым народзе. Тарашкевіч становіцца ў першых радох гэтай наступова-радыкальнай інстэлігэнцыі. Ён зразумеў, што так далей быць ня можа, што трэба зьмяніць дацяперашні спосаб барацьбы, трэба ўзяцца зя арганізацыю народу. шчыльней зьвязаць сябе з працоўнымі гушчамі Зах. Беларусі. У канцы 1925 году адбывлецця разлом у Бел. Пас. Клюбе і Тарашкевіч разам з 4-мя іншымі пасламі выступаюць з яго, творачы Бел. Сял. Раб. Пасольскі Клюб Грамады. Аб разьбіцьці сваіх „наіўных" ілюзіяў Тарашкевіч ня раз гаварыў з соймавай трыбуны і на мітынгах. У 1926 г. каля Клубу „Грамады" творыцца масавая арганізацыя беларускага народу, вядомая „Грамада", якая ня працягу некалькіх месяцаў свайго існаваньня ўжо налічвае 100 000 сяброў; Тарашкевіч зьяўляецца кіраўніком і старшынёй „Грамады". У 1927 г. у часе разьвязаньня громады" Тарашкевіч разам з іншымі апыняецца за кратамі дастаючы 6 год цяжкага вастрогу. Адсядзеўшы больш трох гадоў, Т. на падставе ласкі прызыдэнта Польскае Рэспублікі звальняецца перадтэрмінова з вастрогу. Па выхадзе на волю не пакідае і надалей працы ў беларускім нацыянальна-вызвалэнчым руху. У пачатку 1931 г. ізноў арыштоўваецца польскімі ўладамі ў часе праезду праз Тчэў, абвінавачваецца ў камуністычнай дзеяльнасьці ў імкненьні до адарваньня Зах. Беларусі ад Польшчы і на падставе судовага прыгавару дастае 8 гад. ц. вассрогу.

**„Шлях"—найлепшы прыяцель селяніна і работніка.**

# ПА НАШЫХ ЗЕМЛЯХ

### Галотнае існаваньне

Сучаснае жыцьцё беларускага селяніна нельга інакш назваць, як галотным існаваньнем. Каб апраўдаць гэткі назоў, прыгледзімся бліжэй да жыцьця беларускага хлебароба ў нашым нясьвіжскім павеце. Скажу коратка, што жыцьцё селяніна, асабліва беззямельнага і малазямельнага з кожным днём пагаршаецца, становіцца проста жудасным. Ужо цяпер сялянства прымешывае да хлеба бульбу, кармавыя буракі, гарбузы, жалуды і інш., а што-ж будзе на вясну, дык і падумаць жах. Звычайная ежа нашага сялянства: хлеб, бульба, капуста, буракі; тлушчаў і мяса ўжывае надта мала. Малочныя вырабы, як масла, сыр, толькі ўлетку. Яйко, куры, гусі ідуць на прадаж, каб пакрыць які-небудзь падатак. Гэткія рэчы, як цукер, соль, газа, мыла, запалкі і інш. зьнікаюць з абароту вёскі. Дзякуючы ненармальнаму аджыўленьню сярод беларускага сялянства, масава пашыраюцца розныя жалудачныя хваробы. Асабліва хваравіта выглядаюць нашыя дзеці—з уздутымі жыватамі ад бульбы, з тонкімі нагамі, бледныя, сухія, мала надаючыя надзеі на будучых здаровых людзей. Ня дзіва, што сьмяротнасьць сярод дзяцей страшэнная.

Аднак гэтага мала. Наш селянін за сваю цяжкую працу ня толькі сядзіць галодны, але яшчэ ходзіць абарваны і босы. Купіць ботаў няма за што, лыка на лапці таксама трэба купіць, ці добра палазіць па лясох знебясьпекаю, каб не напаткаць лясьніка. Амаль ня ўсё сялянства знаходзіцца ў даўгох і іншых забавязаньнях. Падаткі і розныя павіннасьці ціснуць селяніна з усіх бакоў.

Апрача матэрыяльнага ўбоства, даецца моцна ў знакі і голад духовы. Духовы заняпад, ня менш за голад фізычны, нішчыць душу і маральнасьць нашага хлебароба. Паўстае няверра ў свае собскія сілы, роспач, расчараваньне ў жыцьці, зьнікла надзея на паправу свайго палажэньня, а вынік гэтага: зьдзічэньне, ненавісьць, дробнае зладзейства і іншыя немаральныя паступкі.

Сумуючы вышэй напісанае, паўстае пытаньне, што давяло нашага селяніна да гэтага згубнага стану. Давялі селяніна да такога абядненьня ня толькі як кажуць, сусьветны гаспадарчы крызіс, які спававаў бязцэннасьць земляробскіх прадуктаў, але і чыста краёвыя зьявішчы, як у нас на Беларусі — вялікі зямельны голад, войны як сусьветныя, так і польска — бальшавіцкая, якія ў працягу некалькі гадоў нішчылі нашыя вёскі, адсталасьць нашага селяніна ў земляробскай тэхніцы, адсутнасьць сваіх народных, земляробска-гаспадарчых арганізацыяў, непасільная падаткавыя цяжасьці, нарэшце неўраджай, град, якія ў працягу колькі год нанасілі моцныя страты нясьвіжскаму павету.

Выхад з палажэньня будзе такі: безадкладная арганізацыя нашага працоўнага беларускага народу ў свае арганізацыі, як коопэратывы і іншыя земляробскія супалкі, масавы ўдзел у іх, энэргічнае змаганьне за палепшаньне свайго быту.

**Змагар**

### Выпадак пры сьцягваньні падаткаў

„У кал. Лайкаўшчына, Бяліцкай гміны., земляроб Адвард Карповіч разам з другімі сялянамі, прабавалі аказываць спраціў сэквастратару і паліцыянту, каторыя мелі замер за даўгі забраць яго маемасьць".

**(„Słowo" 10-XI 32 г.)**

# МУЖЫК

Што я мужых, усе тут знаюць,
І як ёсьць гэты сьвет вялік,
З мяне сьмяюцца, пагарджаюць,
Бо я мужык, дурны мужык.
Чытаць, пісаць я ня умею,
Ня ходзе*) глядка мой язык,
Бо толькі вечна ару, сею —
Бо я мужык, дурны мужык.
Бо з црацы хлеб свой дабываю,
Бо зношу лаянку і крык,
І сьвята рэдка калі знаю, —
Бо я мужык, дурны мужык.
Галеюць дзеці век бяз хлеба,
Падзёрты жончын чаравік,
Ня маю грошы, на патрэбу,
Бо я мужык, дурны мужык.
Заліты потам горкім вочы;
Ці я малы, ці я старык, — **)
Працую, як той вол рабочы, —
Бо я мужык, дурны мужык.
Як хвор ды бедзень — сам бяруся
Лячыць сябе: я чараўнік!
Бо я бяз дохтара лячуся, —
Бо я мужык. дурны мужык.
Што голы я, павінен згінуць,
Як той у лесе чашчавік,
І, як сабака, сьвет пакінуць, —
Бо я мужык. дурны мужык.
Але, хоць колькі жыць тут буду.
Як будзе век тут мой вялік,
Ніколі братцы, не забуду,
Што чалавек я, хоць мужык.
І кожны, хто мяне спытае,
Пачуе толькі адзін крык,
Што, хоць мной кожны пагарджае,
Я буду жыць! — бо я мужык!

*) Провінц. — Ходзіць.
**) Русіць. — Стары.

### Прыгавары ма сьмерць

7 лістапада мін. г. Акр. Суд у Баранавічах разглядаў справу трох братоў Уладз., Вацл. і Міх. Петрашэўскіх, якія абвінавачваліся ў шпіёнстве. Суд засудзіў Уладз. Петрашэвіча на кару сьмерці праз павешаньне, Вацл. Петрашэвіча на бястэрміновы вастрох і Міх. Петрашэвіча на 15 гадоў катаргі.

### Бандыцкі напад

З 30 на 31 сьнежня м. г. у начы няведамыя асобы напалі на вяртаючагася з Слонімскага кермашу селяніна Міхала Наўмовіча з вёскі Новыя-Сады астроўскай гміны, цкаторага ў жуткі спосаб забілі на вазе, а трупа за ягнулі ў кусты паўтара кілёматра ад в. Н.-Сады. Конь з акрываўленым возам сам прышоў да дому свайго гаспадара. Па некалькі гадзінным шуканьні, знайшлі забітага селяніна ў кустох з зьмяжджанай галавой і зспэчаным тварам. На мейсца забойства выехаў судзьдзя сьледчы з Баранавіч з кам. Буткевічам. На падставе праведзянага сьледзтва ўстаноўлена, што забойства даканана з мэтаю рабунку. Наўмановіч, прадаўшы ў Слоніме кабаноў, варочаўся з значнаю сумаю грошай.

**„Шлях"—гэта уласнасьць усяго беларускага народу. Выпісывайце, чытайце і распашырайце „Шлях".**

агульнае па-зашкольнае грамадзкае дзеяльнасьці

У 1905 годзе царскія судзьдзі прыгаварылі энэргічнага, няўтомнага Коласа на тры гады вастрогу, якія ён і праводзіць у менскіх царскіх казаматах. Пазакратавае жыцьцё выкарыстоўвае Колас на тварэньне сваіх найлепшых вершаў і распачынае пісаць найбольш выдатны твор—поэму „Новая Зямля", Васторг ня можа зламаць энэргіі поэта," ён і надалей пяе свае „песьні няволі", але „душа яго ня плача" і „грудзь нярвецца". Тут пясьняр гартуе сваю волю, набірае яшчэ большага пераканаьня аб слушнасьці сваей барацбы і барацьбы масаў, яшчэ мацней пранікае ненавісьцю да „турмы народаў". Па выхадзе з вастрогу ў 1911 годзе, Колас ізноў прыступае да чыннай грамадзкай працы, аддаючы ўсё, што можа, на аўтар вызваленьня сябе і сваіх братоў з путаў цемры, вызыску і ўціску. Выбухае сусьветная вайна. Яна кідае Каласа на румынскі фронт, але ў зьвяску з хваробай лёгкіх, ён хутка звальняецца са службы і вяртаецца да сваей сям,і ў Курскую губэрню.

Пасьля рэволюцыі аж да сяньняшняга дня разам з Купалай знаходзіцца ў Менску, непакідаючы пяра і практычнаи дзеяльнасьці ў кірунку дапамогі масам пабудаваць сваю культуру і гаспадарку. Так як і Я. Купала, Колас зьвязаў сябе „тысячамі ніцей" з тым, што робіцца ў Усходняй Беларусі, аддаючы і надалей масам народу нязьлічаныя ўслугі. І гэтая сувязь з масамі, праца і барацьба для шырокіх слаёў народу аформулена наданьнем песьняру ў 1926 годзе ўрадам БССР годнасьці народнага поэта.

Жыцьцёвыя абставіны, гістарычныя варункі гэтыя „тысячы ніцеў, з якіх аснована і выткана жыцьцё", характар эпохі, калі выступаў на арэну дзеяльнасьці малады яшчэ Колас — усё гэта сталася жывой багатай крыніцай, якая пасьля напоўніла зьместам усю яго мастацка-літэрэтурную творчасьць. Колас — пясьняр „з голадам зрадніўшыся, худых і абарваных" вызыск працоўнага сялянства, нацыяналяны ўціск у найбольш зьверскай форме — вось агульныя мамэнты, якія налажылі на Коласа усваю пячатку і якая знаходзіць выраз у-ва ў-сей дзеялнасьці песьняра да апошніх дзён. Творчасьць Коласа—гэта голас „жальбы" і „нуды" беларускага прыгнечанага селяніна, „песьні пакутныя" „няволяй зьвязаных" — гэта крык пратэсту супроць „царскага біча", супроць прыгоньніцкага вызыску, гэта заклік да барацьбы за новае жыцьцё", заклік да „шуканьня долі", да „рваньня путаў", да „пяяньня новых песень"-гэта выраз нязломнае веру ў тое, што ідэалы шырокіх масаў беларускага народу будуць зьдзейсьнены, што „хоць некалі, а праўды дачакаемся". Парэвалюцыйныя творы Якуба Колас даюць, нам часта жывы, яскравы, рэльефны*) малюнак таго жыцьця, якое рэалізуецца па другой старане нашай усходняй граніцы. Цяперашнія песьні Коласа — гэта выраз пачуцьцяў, якія перажывае сяньня наш народны поэт.

У папярэднім нумару нашае газэты мы ўжо зазначылі, апіраючыся на словы грам. Езавітава, што Колас у сучасны мамэнт знаходзіцца ў поўным расквіту сваіх сіл і творчасьці. Таму трэба спадзявацца, што талент нашага поэта і варункі яго сучаснага жыцьця дадуць нам яшчэ ня мала песень.

50-цігадовы юбілей нашых абодвых народных поэтаў — гэта юбілей ўсіх тых, з кім свои лёс зьвязалі песьняры. Гэта сьвята найшырэйшых слаеў беларускага народу. Тыя колы з-пасярод нашага грамадзянства, якія зьяўляюцца рэпрэзэнтантамі заможнай часткі беларускай нацыі, якія зьвязалі свой лёс з няпрыхільнікамі нашага нацыянальна-адраджэнскага руху стараюцца також сама адзначыць гэты юбілей, ставячы перад сабой задачу з аднаго боку „ачысьціць" творчасьць абодвух поэтаў ад народна-вызваленчага духу, падрэзаць карані праўдзівай ідэолёгіі нашых волатаў нацыянальнага і сацыянальнага руху, а з другога боку, спэкулючы імёнамі Купалы і Коласа набіць сабе капітал папуляўнасьці ў масах маласьведамага грамадзянства. Больш рухлівая частка гэтых кругоў ладзіла з вязікаю помпаю „акадэмію" ў чэсьць Купалы і Коласа; другая частка зьмясьціла ў сваёй прэсе шумныя артыкулы, „даказваючы" пры помачы да нуды аб'ежджанага аргумэнту аб „новым сталіноўскім курсе", што ліры Коласа і Купалы „заглушаны", што яны ўжо „жывыя нябошчыкі" і т. д. і т. п. Колькі праўды і якая тэндэнцыя крыецца пад гэтымі словамі — зразумела сама сабой. А калі мы да гэтага ўспомнім папярэднія „рэвэляцыі" той-жа прэсы аб "арышце" Якуба Коласа і аб т. зв. „пробе самагубства" Янкі Купалы, на якія пасьля і Колас і Купала ўласнаручна мусілі пісаць запярэчаньні, дык шыла сама сабой вылезе на верх. І ўсе стараньні, як „Бел. Крыніцы" так і „Звону" прыкрыць свае цраўдзівыя інтэнцыі прыгожымі фразамі застануцца без пасьпеху.

Юбілей Коласа і Купалы павінен стацца для нас стымулам* да ўзмацненьня працы ў нацыянальна-вызваленчым руху, павінен быць штуршком да распашырэньня тае ідэалёгіі, якой служылі нашы песьняры, нашы будзіцелі, якія ўжо даўно нам сказалі, што і мы людзі.

„Што і нам гараваць
Надаела ўвесь век"!

*) выпуклы.

**) будзіцелям.

